Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 134 (147) 12 ліпеня 1991 г. Пятніца.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### В двух словах

● В Минск по приглашению правительства Белоруссии прибыли представители Всемирной организации здравоохранения во главе с ее генеральным директором доктором Накаджимой.

Вчера утром делегация ВОЗ была принята Председателем Совета Министров республики В. Кебичем. Рассматривался вопрос оказания Белоруссии со стороны ВОЗ содействия в ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС.

● Пятьдесят четыре жизни только за первую неделю июля унесла вода. Тринадцать из них — детские. Эти цифры сообщил нам Центральный совет ОСВОДа БССР.

● В совхозе «Лошницы» Борисовского района сегодня подводятся итоги республиканского конкурса пахарей.

Работа оценивалась по прямоте, глубине, качеству вспашки, готовности техники. Впрочем, условия конкурса излагаются на паре десятков страниц. А о его итогах мы намерены рассказать подробнее.

### Когда в товарищах согласья нет...

МОГИЛЕВ (Н. Комлев). Группа работников городского исполнительного комитета устроила себе туристическую поездку в Польшу. Но, как поведала одна из местных газет, некоторые из горисполкомовцев включили в поездку своих родственников, лишив тем самым возможности съездить других работников аппарата.

Как выяснилось, иные из побывавших за границей получили за «туристические» дни еще и зарплату.

### Все выше, и выше, и выше...

**В прошлом году в СССР было зарегистрировано 2,7 миллиона преступлений. В нынешнем году предполагается, что их число возрастет на 300 тысяч.**

Однако даже эти цифры не отражают истинной картины, поскольку, как считают руководители МВД, фактически их совершается в СССР 10—12 миллионов ежегодно.

Из регистрируемых преступлений удается раскрыть едва лишь половину.

### Впереди планеты всей

На днях международная правозащитная организация «Эмнисти интернешнл» опубликовала сводный отчет о состоянии дел с правами человека в мире за 1990 год. Смертные приговоры выносились в 90 странах, и более 80 процентов исключительных мер наказания приходится на СССР, КНР и Нигерию.

### Ельцин справил новоселье

**В здании заседания палат Верховного Совета СССР на 4-м этаже, где ранее размещался кабинет главы Советского Союза М. С. Горбачева, появилась новая вывеска: «Президент РСФСР Б. Н. Ельцин».**

Михаил Сергеевич переехал в другое здание в Кремле по соседству с тем, где отныне будет работать первый в истории России Президент.

### Валюта для детей

Республиканская детская больница Каракалпакии на полученные в дар от Президента М. Горбачева 150 тысяч долларов — часть его Нобелевской премии — заказала зарубежное диагностическое оборудование.

— Мы никогда не располагали валютой, — сказала главный врач больницы Ф. Кабирова, — и теперь впервые получили возможность приобрести первоклассное оборудование, которое позволит улучшить и ускорить обследование и лечение детей.

### Услуга за услугу

(В. СЕЛЮЖИЦКАЯ).

**Договор о сотрудничестве заключили между собой мелиораторы ганцевичской ПМК-63 и нефтепереработчики Новополоцка.**

На крупном заболоченном массиве «вахтовики» с Брестчины проводят мелиорацию земель, прокладывают дороги, готовят площади под клюквенные плантации. Общий объем работ, который предстоит им выполнить, составляет 3,4 миллиона рублей.

Помимо расчетов за работу в деньгах, нефтепереработчики обязуются обеспечить мелиораторов дизельным топливом, бензином, машинным маслом.

Кстати, подобным же образом зарабатывают бумагу на Слонимском целлюлозно-бумажном комбинате мелиораторы из Жабинки, цемент на «Волковыскцементношифере» — дропичинцы.

### Вольготно только ценам

**Резкое повышение цен в Эстонии с 1 июля не привело к изобилию товаров на прилавках магазинов.**

Сливочное масло по цене 27 рублей за килограмм можно увидеть далеко не в каждом магазине, как, впрочем, и хорошую свинину за 20 рублей; сахарный песок, который отпускается по талонам, некоторые семьи не могут купить уже в течение двух месяцев. А на черном рынке килограмм его стоит 25 рублей. Свободные цены пока, увы, имеют тенденцию только к росту.




Рисунок О. ПОПОВА.

### Новое поколение выбирает досуг

**До недавнего времени считалось, что многие японцы настолько привержены к труду, что их даже стали именовать «трудоголиками». Однако, похоже, времена меняются.**

Согласно опросу, проведенному японским центром по повышению призводительности труда и молодежной экономической ассоциацией, молодые японцы ставят на первое место в жизни не работу, а отдых и развлечения.

### Белый пароход готов к отплытию?

**Бразилия готовит проект по привлечению в страну советских ученых и инженерно-технических работников, желающих выехать из СССР.**

По прогнозам посольства Бразилии в Москве, лица с высшим образованием составят около 10 процентов всех советских иммигрантов. Предпочтение будет отдаваться профессионалам высокой квалификации, специализирующимся в отраслях, представляющих интерес для этой южноамериканской страны.

Выпуск «ФАКСа» подготовлен по сообщениям корреспондентов «Народной газеты» и агентства «Инфоновости».
Дежурили Ирина ДЕРГАЧ и Алесь СИВЫЙ.
«Горячий» телефон 34-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.

---

Фота ў нумар





## Трымайцеся, людзі добрыя!

Тым, хто працуе ў калгасе імя Кірава Пінскага раёна, асабліва цяжка: меліярацыйная сетка даўно не рэканструявалася і значныя плошчы літаральна плаваюць. Але ж мясцовыя механізатары — народ старанны, кемлівы. Глядзіш — і кармоў будзе нарыхтавана дастаткова і добрай якасці.

**На ЗДЫМКАХ:** вопытныя механізатары Мікалай Крывецкі і Андрэй Клімавец; будзе добрае сена — будуць зімой высокія надоі.

Фота Міхаіла ЖЫЛІНСКАГА.

---

Рэзананс

## Мы пратэстуем!

З публікацыі ў «Народнай газеце» даведаліся, што ў Мінску са згоды і пры актыўным удзеле ЦК КПБ 13—14 ліпеня гэтага года мае адбыцца ўсесаюзнае зборышча сталіністаў.

Мы рашуча пратэстуем супраць гэтага ганебнага для нашай рэспублікі злёту нашчадкаў «бацькі народаў» і гнеўна асуджаем тых, хто арганізоўвае гэтае мерапрыемства. Мы лічым, што такі шабаш сталіністаў ў нашай сталіцы — гэта не што іншае, як глумленне над памяццю соцень і соцень тысяч бязвінных ахвяр сталінскага генацыду на Беларусі, сімвалам якога сталі Курапаты.

Праз вашу газету мы звяртаемся ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і да ўрада суверэннай Беларусі з патрабаваннем забараніць правядзенне ў Мінску, ды наогул у нашай рэспубліцы, канферэнцыі бальшавіцкай платформы ў КПСС.

**М. Дудзейка, І. Здановіч, К. Жытко, В. Рачко, У. Глазуноў, Г. Жагалаў, Т. Жагалава, В. Здановіч, Г. Сарока.**

8 ліпеня 1991 года
г. Пружаны.

## Нет—сталинизму!

На 13 июля в Минске намечено сборище сторонников возрождения сталинизма. Неужели подобное может произойти в городе, где в годы сталинских репрессий были уничтожены лучшие сыновья и дочери белорусского народа?

Подобная акция ляжет тяжелым пятном позора на правительство республики, на каждого ее жителя. Давая согласие на проведение совещания, мы как бы одобряем все зверства и ужасы сталинизма и не расстаемся с надеждами о его возврате.

Возможно, кое-кто и живет подобными бреднями, но только не белорусский народ.

Все, кому дороги идеалы человечества и кому небезразлично наше будущее, должны сказать решительное «нет!» проведению в Белоруссии сходки сторонников кровавой бойни!

Мы обязаны поступить подобно одесситам, которые выдворили сталинистов.

Мы не должны жить даже одного дня в тени смерти палачей!

**Евгений БУБНОВИЧ,**
**рабочий.**
г. Минск.

## Прогноз, как всегда, мрачен

**Как утверждают специалисты Всесоюзного общественного фонда защиты от безработицы, если не будут приняты необходимые меры, к 1992 году в СССР безработными могут стать 11 млн. человек.**

Более 4 млн. человек потребуется помощь в трудоустройстве. Заметно снизится к этому периоду численность занятых в народном хозяйстве — на 7 млн. человек, причем 4,3 млн. из них будут высвобождены в результате ликвидации убыточных предприятий, а 2,7 млн. человек останутся на предприятиях на условиях частичной занятости. Эти данные приводит «Рабочая трибуна».

---

*Г. М. БУРАЎКІН:*

# «Магчыма, праз нейкі час я нават буду ўдзячны лёсу...»

## З Пастаянным прадстаўніком Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных нацый Г.М.Бураўкіным гутарыць галоўны рэдактар «Народнай газеты» І. П. Сярэдзіч

*Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна прадстаўляць не трэба — не адзін год ён быў, як кажуць, на віду ўсёй рэспублікі: працаваў у «ЛіМе», уласным карэспандэнтам «Праўды», рэдактарам часопіса «Маладосць», старшынёй Дзяржтэлерадыё БССР. З'яўляючыся дэпутатам Вярхоўнага Савета, членам Прэзідыума Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, прымаў самы актыўны ўдзел у палітычным і грамадскім жыцці рэспублікі. Не ўсім падабаліся яго погляды, яго пазіцыя, але Бураўкін заўсёды заставаўся Бураўкіным...*

*А таму першае пытанне:*

**— Генадзь Мікалаевіч, год таму ў Вашым жыцці адбыліся рэзкія змены—Вас накіравалі на работу ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Як Вы лічыце, гэта заканамернасць ці выпадковасць?**

— Я думаю, што самім пытаннем Вы, як кажуць, спагназавалі мой адказ — гэта была нечаканасць. А раз нечаканасць, то нельга сцвярджаць, што заканамернасць. Я не рыхтаваўся да дыпламатычнай работы, да дыпламатычнай кар'еры. Між іншым, слова «кар'ера» ў дыпламатыі абсалютна нармальнае, натуральнае і нічога дрэннага ў сабе не нясе. Але я, яшчэ раз скажу, не рыхтаваўся да гэтай кар'еры... Жыццёвыя, службовыя і іншыя абставіны склаліся так, што я даў згоду на тое, каб працаваць у Пастаянным прадстаўніцтве Беларускай ССР пры ААН. І мяркую, што, калі адкінуць нейкія эмацыянальныя рэчы і асабістыя пачуцці, то, магчыма, праз нейкі час я нават буду ўдзячны лёсу...

**— Значыць, Вы не шкадуеце, што так атрымалася?..**

— Ну, гэта вельмі няпроста адказаць, шкадую ці не шкадую. Тое, што я да новай работы не быў гатовы,—гэта безумоўна. Але ж безумоўна і тое, што я адкрыў для сябе як для чалавека і ўрэшце як для грамадзяніна вельмі шмат цікавага. Відавочна, і тое, што, будучы там, за акіянам, я імкнуся рабіць карысць для роднага народа, для роднай рэспублікі...

**— Цікава, а з чаго пачалі Вы сваю дыпламатычную кар'еру на новым месцы?**

— Першае, з чаго я пачаў, — гэта з жадання ўвайсці ў той калектыў Пастаяннага прадстаўніцтва, які там ёсць. І першыя мае просьбы, якія былі да тых, хто кіруе міжнароднай дзейнасцю ў рэспубліцы, заключаліся ў тым, каб захаваць той калектыў, які там працаваў. Ёсць такі закон пастаянных прадстаўніцтваў, што праз пэўны час людзі ў іх мяняюцца, на пасады адных прыязджаюць іншыя, зменшчыкі. Я ж настойліва прапанаваў нікога не мяняць... І лічу, што справа ад гэтага толькі выйграла. Аб гэтым гаворыць і тое, што ў нас ніякіх непаразуменняў не было і няма, і я, як кіраўнік прадстаўніцтва, адчуваю сябе нармальна.

**— Дарэчы, а калектыў прадстаўніцтва вялікі?**

— Калектыў нашага прадстаўніцтва невялікі: усяго 10 чалавек — 7 дыпламатаў і 3 тэхнічныя работнікі.



**— Генадзь Мікалаевіч, я нешта не прыпомню, каб нашыя сродкі масавай інфармацыі расказвалі пра работу беларускага прадстаўніцтва ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а таму не маглі б Вы хоць акрэсліць некаторыя задачы і некаторыя яго галоўныя напрамкі дзейнасці?**

— Я пастараюся зрабіць гэта вельмі коратка і сціпла, бо пра работу Пастаяннага прадстаўніцтва можна расказваць падрабязна і доўга—работа сапраўды шматгранная і даволі напружаная. Гэта той, хто не ведае, можа параўноўваць прадстаўніцтва з нейкім філіялам дома адпачынку. На самой справе гэта—сур'ёзная і, я лічу, важная для рэспублікі работа. Задачы, калі абмяжоўвацца некалькімі словамі, простыя — дастойна прадстаўляць сваю рэспубліку ў міжнародным супольніцтве, адстойваць яе інтарэсы. Гэта, калі сфармуляваць у самых агульных словах.

Якія механізмы выкарыстоўваюцца ў практыцы работы нашага прадстаўніцтва? Тыя, якія ёсць у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый,—гэта работа праз сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, праз камітэты, камісіі, праз кантакты з рознымі місіямі, якія там ёсць...

Другое — гэта, скажам так, — прапаганда ў краіне знаходжання (у Злучаных Штатах Амерыкі) ведаў пра нашу рэспубліку — пра яе гісторыю, яе становішча на дадзеным этапе, прапаганда яе патрэб і клопатаў... І адна з нашых, можа быць, самых найважнейшых «дзялянак» — гэта тое, што звязана з Чарнобылем, з наладжваннем кантактаў з дзелавымі коламі. Што маецца на ўвазе, калі я гавару пра Чарнобыль? Гэта зноў жа перш за ўсё тое, што мы стараемся, каб як мага больш людзей ведалі пра нашу бяду, пра яе рэальныя маштабы і пра рэальную глыбіню гэтай трагедыі. Другое, каб гэта мела водгук у выглядзе дапамогі — медыцынскай і іншай — тым, хто пакутуе ад чарнобыльскай бяды. І наступнае — тое, што мы прымаем непасрэдны ўдзел у зборы сродкаў і адпраўцы іх на Радзіму. Мы ездзім, сустракаемся з амерыканскай грамадскасцю, з рэлігійнымі абшчынамі, з нашымі землякамі-эмігрантамі і агітуем іх збіраць сродкі. Адначасова шукаем фірмы, якія на сабраныя сродкі маглі б прадаць лекі па больш таннай цане. Наступны крок — адпраўка грузаў...

**— Генадзь Мікалаевіч, а не маглі б Вы больш падрабязна спыніцца на нейкай адной акцыі?**

— Раскажу пра самую апошнюю. Недалёка ад Нью-Йорка ёсць школа Рамапа, дзе яе выкладчыкі і навучэнцы ўжо сабралі не першы дарунак Беларусі, дзецям нашай рэспублікі. Група навучэнцаў у свой час была ў Мінску, іх, дарэчы, прымаў Старшыня Вярхоўнага Савета (тады ён быў Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета) Мікалай Іванавіч Дземянцей. І калі ён быў у Нью-Йорку на сустрэчы ў інтарэсах дзяцей, якая праходзіла на вышэйшым узроўні ў час работы сесіі Генеральнай Асамблеі, то мы з ім завіталі ў гэтую школу і мелі вельмі цёплую, шчырую сустрэчу. І вось калі ранейшы дарунак быў на суму 40 тысяч долараў, то цяпер—на мільён долараў. Я прыняў ад імя рэспублікі гэты дарунак, а далей пачалася работа для нас вельмі цяжкая, бо для таго, каб пераправіць такую вялікую партыю тавараў, прытым, там было абсталяванне цяжкое, патрэбны грошы. Грошай такіх, як Вы разумееце, у Пастаяннага прадстаўніцтва няма. Вось чаму мы звярнуліся ў рэспубліку з просьбай знайсці сродкі...

**— Генадзь Мікалаевіч, што і казаць, калектыў прадстаўніцтва нямала робіць для таго, каб дапамагчы рэспубліцы ў вырашэнні многіх пытанняў. Але ці ведаеце Вы пра тыя чуткі, якія распаўсюджваюць адпаведныя сілы наконт таго, быццам наш Пастаянны прадстаўнік, таварыш Бураўкін, толькі тое і робіць, што сустракаецца з людзьмі, якія некалі выехалі з краіны, здрадзілі свайму народу? Прабачце за прамалінейнасць, але што Вы маглі б сказаць у сувязі з гэтым?**

— Я думаю, што гэтае пытанне, мабыць, перш за ўсё трэба было задаць тым, хто накіроўваў мяне ў Амерыку. Яны ведалі, каго прызначаюць на гэтую адказную пасаду. І потым—нядрэнна было б, каб яны разабраліся і выказалі свае адносіны да ўсіх гэтых плётак, чутак, інсінуацый, якія сапраўды ў апошні час, як я пераканаўся, некаму вельмі патрэбны і актыўна распаўсюджваюцца — былі публікацыі ў «Славянских ведомостях», «Политическом собеседнике», зусім нядаўна ў газеце «7 дзён». Я ў гэтым бачу, даруйце мне такую фармулёўку, своеасаблівую кампанію. Не даючы ніякіх канкрэтных фактаў, на голых эмоцыях, на чутках, на ярлыках старога пашыбу робяцца спробы паставіць пад сумненне работу нашу з эміграцыяй, работу не толькі маю, а ўсяго прадстаўніцтва, і падкінуць пры гэтым палітычныя абвінавачванні. Я не хацеў бы, паўтараю, адказваць на гэта, тым больш, што публікацыі выходзяць у нейкіх дзіўных выданнях, якія не даюць адрасоў рэдакцый, тэлефонаў, часам не называюць рэдактараў. Адзінае, што аб'ядноўвае іх, гэта тое, што ўсе яны чамусьці друкуюцца ў друкарні ЦК Кампартыі Беларусі. Няўжо паважанай друкарні не прапануюць нешта лепшае?

Калі ж гаварыць па сутнасці інсінуацый, то... Калі я ехаў у Нью-Йорк і сустракаўся з кіраўнікамі рэспублікі, мне было сказана, што адна з маіх задач — наладжванне кантактаў з беларускай эміграцыяй. І я думаю, што пытанне пастаўлена абсалютна заканамерна і правільна. Так атрымалася, што мы да гэтага часу не маем у рэспубліцы навуковага даследавання гісторыі эміграцыі. А беларуская эміграцыя, як і іншыя эміграцыі, вельмі-вельмі неаднназначная і неаднастайная. Гэта розныя людзі, розныя настроі, гэта, у рэшце рэшт, розныя погляды...

Безумоўна, у эміграцыі ёсць і людзі, якія варожа настроены да нас. Але ж ёсць людзі, і іх большасць, якія вельмі добра ставяцца да рэспублікі, да нашай краіны. Нельга закрываць вочы і на тое, што прадстаўнікі беларускай эміграцыі вядуць даследчую работу ў галіне гісторыі літаратуры, мастацтва. Не трэба адкідаць і тое, што ёсць эмігранцкая літаратура на беларускай мове. Якая яна, якое яе месца ў развіцці беларускай культуры, — гэта ўсё трэба вызначаць спакойна, навукова. Але я перакананы, што без уключэння гэтага пласта ў нас не будзе поўнага ўяўлення пра культурныя працэсы, пра кірункі развіцця нашай гісторыі. Нам трэба гэта ведаць, а не рабіць выгляд, што гэтага няма.

Калі мы наладжваем адносіны з эмігрантамі, то пры гэтым, паверце мне, гэта я кажу з поўнай адказнасцю, мы не заводзім сяброўства з тымі, чые рукі ў крыві, мы з імі не супрацоўнічаем і не сустракаемся. Да таго ж яны і самі не пойдуць да нас, бо тыя, хто іх апякае, не ўхваляць кантактаў з намі, афіцыйнымі прадстаўнікамі Савецкай Беларусі.

Што было ў Кліўлендзе на пачатку верасня мінулага года? Была 19-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, у якой прымала ўдзел вельмі шмат людзей, якіх па-сапраўднаму хвалюе лёс Беларусі. Упершыню там былі госці з Савецкай Беларусі. І я думаю, што гэта знамянальная падзея, выкліканая новымі працэса-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# «Магчыма, праз нейкі час я нават буду ўдзячны лёсу...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

мі ў нашым грамадскім жыцці.

Зноў жа хачу прывесці факт. 650 тысяч беларускіх эмігрантаў, паводле амерыканскіх падлікаў, зараз жыве ў Амерыцы. Сярод іх толькі 50 тысяч, якія прыехалі пасля другой сусветнай вайны. Сярод гэтых 50 тысяч могуць быць сотні тых, хто сапраўды запляміў сваё сумленне і свае рукі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Дык што, з-за гэтай сотні будзем адкідаць больш як паўмільёна нашых землякоў, нашых суайчыннікаў, не будзем з імі супрацоўнічаць, не будзем паважаць іх добрыя пачуцці да нас?

І яшчэ. На гэтай сустрэчы прынята рэзалюцыя з 12 пунктаў. Ні ў адным няма нічога антысавецкага, накіраванага супраць нас. Больш таго, калі ўжо гаварыць прама, на некаторых мітынгах у нас цяпер прымаюцца куды больш страшныя рэзалюцыі.

Да ўдзельнікаў сустрэчы звярнуўся з прывітаннем, у тым ліку вітаў і тых, хто прыехаў з Савецкага Саюза, Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Буш. Калі б гэта было фашысцкае зборышча ці шабаш, як пішуць вельмі смелыя людзі з «Славянских ведомостей», Прэзідэнт Буш ніколі б да такой сустрэчы не звярнуўся з афіцыйным прывітаннем. Таму я хацеў бы параіць маім крытыкам: трэба заўсёды ўзважваць свае вывады, свае ацэнкі і грунтаваць іх на фактах, на дакументах, на сведчаннях тых, хто сапраўды быў сведкам. Калі мы хочам цывілізавана ў свеце выглядаць, калі мы хочам з людзьмі мець нармальныя адносіны, такога ўзроўню публікацый у нас не павінна быць.

**— Мне здаецца, Генадзь Мікалаевіч, што гэта справа рук тых жа людзей, якія і тады, калі Вы працавалі ў рэспубліцы, не-не ды, мне здаецца, і спрабавалі кінуць камень у Ваш агарод...**

— Я сваю пазіцыю заўсёды заяўляю адкрыта і калі яна некаму не падабаецца, хай і ён адкрыта аб гэтым гаворыць.

**— А зараз, Генадзь Мікалаевіч, мне хацелася б спытаць у Вас яшчэ вось пра што. Вам, як кіраўніку нашага прадстаўніцтва, часта даводзіцца ўдзельнічаць у розных мерапрыемствах, якія праходзяць у Злучаных Штатах Амерыкі. Вы назіраеце за работай і парламентарыяў, і дыпламатаў. Якую паралель можна было б у дадзеным выпадку правесці, скажам, паміж работай нашага парламента і парламента Злучаных Штатаў Амерыкі? Што б Вы маглі на гэты конт сказаць?**

— Я гэтага пытання ад Вас чакаў як ад народнага дэпутата рэспублікі і прадстаўніка «Народнай газеты». І таму сякія-такія ўражанні пастараўся нават трошкі прадумаць.

Што хацеў бы адзначыць з вялікай радасцю?.. Безумоўна, рады, што ў нас з'явіўся заканадаўчы орган, члены якога ўпершыню дэмакратычна выбіраліся народам. І калі мне нехта кажа, што вось той ці іншы дэпутат не надта разбіраецца ў нейкіх справах, не вельмі актыўны, я перш за ўсё папракаю нават не гэтага дэпутата і не тую групу, у якую ён уваходзіць, а выбаршчыкаў. Яны ж яго выбралі. Калі ў свой час не змаглі ў ім разабрацца, не ўбачылі сапраўдны яго твар, значыць, даруйце, яны яшчэ палітычна не гатовыя да сур'ёзных дэмакратычных выбараў.

А цяпер пра параўнанні, напрыклад, з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, у якой вопыт работы на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Нездарма ж ААН часам называюць парламентам свету. Першае, што вельмі кідаецца ў вочы, — розныя ўзроўні культуры. І, прабачце, не на карысць Вярхоўнага Савета Беларусі. Калі там, у кулуарах ААН, бываюць таксама гарачыя спрэчкі, дык на трыбуне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый усё ідзе стрымана і дастойна, з абавязковай годнасцю. Той, хто стаіць на трыбуне, заўсёды памятае, што за ім — краіна, народ. І калі прадстаўнік гэтай краіны, народа будзе паводзіць сябе некультурна, паказваць нізкі ўзровень адукаванасці, нізкі ўзровень мыслення, гэта так ці інакш будзе пераносіцца на тую краіну, якую ён прадстаўляе. Тут жа, у нас, гэта маё (можа, яно і няправільнае) уражанне, што ўсё наадварот. У кулуарах людзі могуць ледзь не абдымацца, затое на трыбуне так бэсцяць адзін аднаго, што часам проста сорамна.

Яшчэ адна дэталь, на якую я звярнуў увагу, калі нядаўна глядзеў рэпартаж з сесіі. Выступае міністр юстыцыі рэспублікі, адказвае на пытанні. І вось у канцы яго выступлення дэпутат, здаецца, Сямдзянава, просіць яго адказаць на пытанне, якое ў пісьмовай форме загадзя падала міністру. І што вы думаеце? Ён і не збіраецца адказваць, махае рукой і ідзе з трыбуны. І старшынствуючы паважаны Мікалай Іванавіч Дземянцей на ўсё гэта глядзіць спакойна і не робіць нават заўвагі. Вы разумееце, калі міністр юстыцыі — я гэта падкрэсліваю—юстыцыі—так ставіцца да дэпутата, да народнага выбранніка, а кіраўнік Вярхоўнага Савета дазваляе яму гэта рабіць—гэта, даруйце, нікуды не варта. У развітых, як кажуць, дэмакратыях пасля такіх паводзін міністр мог бы і не ўтрымацца на пасадзе.

Яшчэ адно, што я хацеў бы, параўноўваючы, заўважыць. У ААН ёсць адно абавязковае правіла (падабаецца яно каму-небудзь або не падабаецца — гэта іншая гаворка): усе праекты рэзалюцый, якія прымаюцца, абавязкова прапускаюцца праз фінансавую экспертызу. А ў нас? Прымаюцца часта рашэнні, якія, адразу магу сказаць, не будуць выкананы з-за таго, што ў рэспубліцы або няма матэрыяльных рэсурсаў, або няма фінансавых магчымасцей і няма адкуль рэальна чакаць дапамогі. Я думаю, што больш сумленна было б людзям сказаць, што вось гэта сапраўды трэба рабіць сёлета, а гэта зрабіць не можам, давайце зробім праз год...

**— Генадзь Мікалаевіч, цяпер у нашым рэспубліканскім парламенце прыкладна 350 народных дэпутатаў. На Вашу думку, ці не замнога? Можа, не ад колькасці трэба ісці, а ад якасці, каб ён быў больш падрыхтаваны, больш прафесійны, больш адукаваны і гэтак далей?..**

— Безумоўна. У мяне няма ніякага сумнення ў тым, што Вярхоўны Савет павінен быць больш прафесійным і павінен працаваць прафесійна. Народныя дэпутаты павінны лічыць на час іх выбрання сваім галоўным і адзіным абавязкам работу ў Вярхоўным Савеце, а не глядзець на яе як на грамадскі «давесак». А то сёй-той прыехаў у парламент прымаць законы, а думае пра тое, што робіцца на яго прадпрыемстве або ў калгасе. Карысці ад гэтага няма ні Вярхоўнаму Савету, ні прадпрыемству.

Я мяркую, што для такой рэспублікі, як Беларусь, дастаткова прафесійнага парламента з колькасцю недзе каля ста дэпутатаў. Але не 350. І ў парламенце павінны быць не «прадстаўнікі», а людзі, якія выдатна ведаюць патрабаванні і беды ўсяго народа.

**— Дзіўна выглядае і тое, калі кожная фракцыя цягне кашулю на свае плечы. Прадстаўнікі прамысловасці на сябе, навукоўцы — на сябе, аграрнікі—на сябе... Мне здаецца, што калі сабраўся парламент, то ён павінен вырашаць галоўныя праблемы ўсёй рэспублікі.**

— Што і казаць, у парламента галава павінна балець за ўсю рэспубліку. Не за нейкую яе частку, а за ўсю рэспубліку, і таму ў парламент мы павінны выбіраць самых-самых...

**— Прабачце, такое пытанне: як Вы ставіцеся да прэзідэнцкай улады, якая, магчыма, усё ж будзе ў нашай рэспубліцы?**

— Для мяне асабіста гэта пытанне няпростае, бо, як паказвае практыка, прэзідэнцкую ўладу звычайна ў двух выпадках уводзяць — або тады, калі само развіццё гісторыі ставіць пытанне пра прэзідэнцкую форму ўлады, або тады, калі падводзіцца гэта ўлада пад канкрэтную асобу. Наколькі гісторыя нашай беларускай рэспублікі вымагае менавіта прэзідэнцкую форму ўлады — я не гатовы сёння адназначна сказаць. Хоць разумею і адчуваю, што рэспубліцы патрэбна сур'ёзная выканаўчая ўлада, разумная і нават дастаткова жорсткая. Гэта ўсё добра стасуецца да такой пасады, як прэзідэнт. Але наколькі рэспубліка да гэтага гатовая, наколькі яна зможа прэзідэнта аберагчы ад дыктатарскіх замашак, — над гэтым усім трэба добра падумаць.

Другое. Ці ёсць асоба зараз у рэспубліцы? Зноў жа я не магу адказаць адназначна. Не таму, што не бачу цікавых людзей, цікавых асоб. Я такіх людзей, такіх асоб бачу. Але калі выбіраецца прэзідэнт, трэба, каб менавіта гэтую кандыдатуру называў і я, і, скажам, мой зямляк з полацкай вёскі, і рабочы мінскага завода, і вучоны Акадэміі навук, і пісьменнік... Словам, каб гэта фігура была паважаная для ўсіх. Калі адзін называе адну, другі — другую, трэці—трэцюю, чацвёрты—чацвёртую, то не выключаецца выпадковасць, памылка, якая можа вельмі дорага каштаваць. Таму я думаю, што паспешлівасці тут не павінна быць; трэба спакойна, грунтоўна ўзважыць магчымасці, вопыт, які ўжо набыў Вярхоўны Савет, урэшце, азірнуцца на нашых суседзяў, азірнуцца на свет... І толькі тады ісці на гэтыя выбары.

**— На сённяшні дзень Генадзь Мікалаевіч Бураўкін для нашай рэспублікі — не толькі прадстаўнік Беларускай ССР у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Мы ведаем яго і як цудоўнага беларускага паэта. Як яму ў апошні час пішацца?**

— У апошні час, як і ў апошнія гады, пішацца мне цяжка. Цяжка таму, што мая натура не дазваляе мне ўхіляцца ад актыўнай грамадскай работы, і дзяржаўнай работы ў тым ліку, бо і пасада старшыні Дзяржтэлерадыё БССР была дзяржаўнай работай і сённяшняя мая пасада — гэта дзяржаўная работа. А дзяржаўная работа, калі рабіць яе сумленна, суадносячы са сваімі прынцыпамі, забірае надзвычай многа сіл і нерваў, і проста часу. І сёння ў мяне работа вельмі і вельмі складаная, адказная. Роля Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, паўнапраўным членам якой мы з'яўляемся, узрастае; гэта засведчыў той жа персідскі канфлікт. Я думаю, мы можам парадавацца і таму, што ўзрастае актыўнасць Беларусі на міжнароднай арэне. Узрасла і загружанасць кіраўніка прадстаўніцтва. А таму даводзіцца ахвяроўваць шмат чым... Блакнот жа, у які я заношу нейкія радкі, нейкія задумкі, заўсёды ў мяне ў кішэні. І я яго час ад часу, хоць і не так часта, як хацелася б, разгортваю і нешта запісваю. Вось і цяпер, у час адпачынку, некаторыя свае запісы я давёў да ладу і здаў у часопіс «Полымя» вялікую падборку вершаў.

**— Генадзь Мікалаевіч, вось мы зноў, здаецца, вярнуліся да Вашай прафесійнай дзейнасці. Я ўпэўнены, што чытачам «Народнай газеты» будзе цікава ведаць хоць крышачку пра Вашае жыццё-быццё ў бытавым сэнсе. У якіх умовах жыве кіраўнік нашага прадстаўніцтва, у якіх умовах жывуць іншыя супрацоўнікі прадстаўніцтва, як яны забяспечаны, як да іх ставяцца мясцовыя ўлады, якія бываюць сітуацыі?..**

— На гэтыя пытанні можна было б адказаць, як Марк Твэн некалі адказаў, што «чуткі пра маю смерць трошкі перабольшаны». Дык вось, я хачу сказаць, што чуткі пра тое, што мы там горнем рыдлёўкай долары, — няпраўда. Для таго, каб менш даваць каментарыяў, а больш фактаў, назаву некаторыя лічбы.

Мая зарплата, зарплата Пастаяннага прадстаўніка БССР у ААН, 1.300 долараў у месяц. Для таго, каб вы адчулі рэальную вагу яе, а не проста перамножылі 1.300 на камерцыйны каэфіцыент і войкнулі, хачу паведаміць: у маі сярэдняя зарплата амерыканскага рабочага была 2.000 долараў. А адзін эмігрант, з якім мы знаёмыя (ён прафесійны фатограф), атрымлівае пенсію 1.400 долараў. Да таго ж жыццё ў Амерыцы не таннае. На харчаванне (я жыву разам з жонкай) ідзе 400—500 долараў... Жывём мы ў службовай кватэры. Маю службовую машыну.

**— Скажыце, а Юлія Якаўлеўна не працуе?**

— Як жонка пасла (па рангу я Надзвычайны і Паўнамоцны пасол) яна можа працаваць толькі на рабоце, якая адпавядае статусу пасла. Ну, а знайсці такую работу ў Нью-Йорку без свабоднага валодання англійскай мовай цяжка. Таму жывём на маю зарплату.

**— Ваш адпачынак набліжаецца да завяршэння. Хацелася б ведаць, з якім унутраным настроем Вы зноў будзеце ад'язджаць з роднай Беларусі?**

— Самае галоўнае і самае балючае пачуццё — наперадзе яшчэ год ростані. Год ростані з родным домам, з людзьмі, якія для мяне вельмі дарагія, якіх я хацеў бы заўсёды бачыць побач з сабой.

Ну, і яшчэ з адным пачуццём — больш дапамагчы роднай рэспубліцы, роднаму народу ў гэты складаны, у гэты мітуслівы і нервовы час...

**— Дзякуй, Генадзь Мікалаевіч, за шчырую гаворку. Усяго Вам найлепшага.**

— Дзякуй і Вам. Жадаю падпісчыкам і чытачам «Народнай газеты», Вашым калегам, усім, хто «робіць» газету, якую я ўважліва чытаю ў Нью-Йорку, сур'ёзнай творчасці, плённых вынікаў.

**— Да новых сустрэч?**

— Да новых сустрэч!..

---

Без преувеличений

# Икарусный синдром

## грозит окончательно парализовать работу пассажирского автотранспорта Белоруссии

Увы, это уже не досужие опасения из области прогнозов, а горькая реальность сегодняшних дней.

**— Чтобы сковать пассажирские автоперевозки в республике, нам и забастовок не надо проводить,— откровенно сказал мне начальник Управления материальных и вторичных ресурсов Министерства транспорта БССР Федор Жилевич. — Свыше восьмидесяти процентов перевозок пассажиров выполняют автобусы венгерского производства «Икарус». Сотни этих машин из-за прекращения с четвертого квартала 1990 года поставок запасных частей в связи с переходом взаиморасчетов на свободно конвертируемую валюту сейчас находятся на грани остановки. На нужды же отрасли в этом году выделили 40 (!) «Икарусов» (при ежегодных поставках прошлых лет в среднем 450 машин).**

Нет, венгры работать хуже не стали — склады завода по производству «Икарусов» забиты готовой продукцией. Однако СССР не расплатился еще по старым векселям, и былые товарищи по соцсодружеству не спешат с продажей новых автобусов.

Что сетовать: таковы последствия нашей многолетней венгерской автобусостроительной ориентации. Стоило подуть свежему перестроечному ветерку на наших социалистических друзей, и доселе надежный СЭВ распался, как глиняный колосс, оставив нас с ворохом трудноразрешимых проблем перед лицом отечественной неразворотливой экономической машины.

Трудно и предположить, чем обернется автотранспортный кризис для каждого из нас, для разбалансированной экономики республики. Сотни людей ежедневно не смогут вовремя добраться до рабочих мест, выехать в командировки, на отдых. Не говоря уже о том, что автобусные парки (в первую очередь выполняющие городские и пригородные перевозки) окажутся по сути банкротами. И где гарантия, что вынужденная остановка водителей автобусов не спровоцирует новый социальный взрыв людского возмущения?

Какой выход? Снова найти крайнего — стрелочника всех наших бед? Министерство транспорта? Подходит, оно ближе всех к народу. Но искать виновных сейчас — занятие неблагородное — запчасти от этого не появятся. К тому же, по поводу приближения катастрофической ситуации в пассажирском автохозяйстве республики Минтранс давно бьет в колокола тревоги.

Еще 14 ноября 1989 года состоялась встреча представителей министерского генералитета транспортников России, Украины и Белоруссии по икарусным проблемам (позже к союзу трех присоединился и Казахстан).

Итогом последующих пяти совещаний стало заключение договоров на производство и взаимные поставки друг другу самодельных запасных частей к автобусам «Икарус». Россия поставит в Белоруссию запчасти на 3,5 млн. рублей, Украина — на 1,13 млн. рублей, Казахстан — на 0,9 млн. рублей. Мы в ответ—почти на 7 млн. рублей. С учетом своих возможностей Минтрансу БССР удалось снизить потребность в СКВ для закупки запасных частей на 20 процентов. Казалось, вот он — выход! Но жизнь снова сыграла злую шутку. В связи с переходом с 1991 года расчетов по экспортно-импортным операциям только за СКВ союзные органы вообще прекратили выделять валютные средства для транспортников. К такому повороту ни отрасль, ни республика не были готовы.

Все вчерашние наработки оказались мизером от требуемого сегодня. Автопарки и областные объединения, непосредственно столкнувшись с угрозой невыезда автобусов на линию и убедившись в медлительности министерства, принялись самостоятельно искать запчасти на стороне, в том числе у более расторопных украинцев и прибалтов.

А что же Минтранс? Весь первый квартал ушел на раскачку и выработку своей программы. Апрельская встреча в Минске союза уже четырех республик (сейчас к этому автотранспортному квартету пытается присоединиться Грузия) запротоколировала основное для всех направление — переориентация с частичного на полное изготовление всей номенклатуры запасных частей. Но для размещения заказов на предприятиях отрасли и в целом республики необходимо время. К тому же, тормозит дело отсутствие техдокументации (венгерская сторона отказалась передать ее СССР). Как ни крутись, нужна валюта, ведь помимо запчастей необходимо закупать и автобусы.

У Минтранса ее нет. Пуста и республиканская казна, обескровленная чернобыльскими проблемами.

Правда, руководство республики выделило отрасли 40 тысяч тонн мазута, 220 тракторов «Беларусь» для бартерных операций по обмену их на запчасти. Но этого слишком мало. Чтобы продержаться только в этом году, Минтрансу требуется 76 млн. американских долларов. Без помощи местных органов власти, предприятий не обойтись.

Но исполкомы и предприятия на местах предпочитают молчать. Лишь Барановичский автоагрегатный завод, бобруйские шинники и столичное ПО порошковой металлургии откликнулись производить запчасти для «Икарусов» да Солигорский калийный комбинат закупил 20 венгерских автобусов для нужд города.

А что остальные, не имеют валюты? Многие предпочитают тратить ее на товары ширпотреба, для своих работников, на покупку служебных автомобилей-иномарок. Боюсь, приобретение зарубежных персоналок для руководителей предприятий и организаций стало больше вопросом престижа, чем острой необходимости. Между тем, рабочий и рядовой инженер ездят на работу не на «ФОРДе», «БМВ» или «Ниссане», а в обычном «Икарусе».

Время не терпит — нужна экстренная помощь. Совмин БССР пробует еще раз обратиться с валютной просьбой к союзному правительству. Но надежды на Москву, скажем честно, призрачные.

**Юрий НОЯРОВИЧ,**
**обозреватель «Народной газеты»**

---

Проблема

# Утраченные радости

**Поселок Холмень в Речицком районе построен для переселенцев из ставшей печально известной Бартоломеевки. Но вот беда: в красивом, с комфортабельным жильем поселке все 350 квартир готовы к приему новоселов только теперь. Все трудоспособные жители Бартоломеевки, которые должны были переехать в Холмень до 1 сентября 1990 года, давно разъехались из деревни, загрязненной после чернобыльской катастрофы, в разные районы республики. Оно и понятно, кто же станет жить с детьми в зоне, где уровень загрязнения более 50 кюри на квадратный километр. В Бартоломеевке нынче остались лишь одинокие и престарелые пенсионеры. Квартиры же в Холмени в основном двух-, трех-, четырехкомнатные. Одиноких стариков, получается, по нашему жилищному законодательству, в такие не поселят.**

**Да и местную власть понять можно, когда семьи механизаторов местного овощеводческого совхоза «Искра» живут чуть ли не в бараках. И принимать пенсионеров, о которых надо только заботиться, и помощи совхозу никакой, администрация хозяйства не торопится...**

**Вот и получается парадокс — комфортабельный жилой поселок обошелся почти в 17 миллионов рублей, а радости от предстоящих новоселий не испытывают ни переселенцы, ни совхоз.**





**НА СНИМКАХ:**
**▲ Новый поселок Холмень.**
**▲ Маляры Солигорского СУ-137 Марина ГОНЧАР (слева) и Наталья БУРАК заканчивают отделочные работы в одном из жилых домов поселка Холмень.**

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА (БЕЛТА).**

---

Святочнае інтэрв'ю

# Смех замяняе ўсе лякарствы,

## аднак ніводнае лякарства не можа замяніць смех

**Беларускаму сатырычнаму часопісу «Вожык» споўнілася 50 гадоў. У такім узросце цяжка паспець за модай — значыць, любоў і павага яго чытачоў абумоўлены нечым большым.**

**Чалавеку, які апошнія чатыры гады кіруе папулярным выданнем,—галоўнаму рэдактару часопіса пісьменніку Валянціну Блакіту — мы адрасуем з нагоды юбілею некалькі святочных пытанняў.**

**— Валянцін Уладзіміравіч, як «Вожык» збіраецца адзначыць круглую дату?**

— Юбілей пройдзе сціпла, без помпы, як гэта бывала ў застойна-застольныя часы. Так бы мовіць, у сямейным коле — будуць толькі свае і суседзі. «Свае» — гэта вядомыя пісьменнікі-сатырыкі і мастакі-карыкатурысты. Хто канкрэтна? Ды працей пералічыць тых, хто ніколі не супрацоўнічаў з часопісам, чым назваць тых, хто звяртаўся ці звяртаецца да любімых у народзе сатырыка-гумарыстычных жанраў. Прыехалі і суседзі. Галоўны рэдактар «Крокодила», прадстаўнікі ўкраінскага, літоўскага і латвійскага сатырычных часопісаў.

**— Юбілей перыядычнага выдання — свята не толькі яго супрацоўнікаў, але і чытачоў. Які падарунак падрыхтавалі ім да 50-годдзя калектыў рэдакцыі?**

— Юбілейны 13-ты нумар. Рэтраспектыўны. Чытачы атрымаюць магчымасць дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем пагартаць яго старонкі, успомніць мінулыя часы. Акрамя таго, у «Бібліятэцы «Вожыка» выходзіць другое выданне «Сказа пра Лысую гару» Ведзьмака Лысагорскага. У яго ўвайшлі тры апушчаныя раней раздзелы уступ Ведзьмака і «апошняе папярэджанне».

**— Няўжо нават Вы не ведаеце, хто аўтар гэтай паэмы?**

— Здагадваюся. Дарэчы, Вядзьмак ставіў умову, што адкрые сваё імя толькі ў тым выпадку, калі «Сказ» выйдзе без скарачэнняў. Паглядзім, пабачым...

**— «Вожык» чытаюць усе, хто ўмее смяяцца. Маладыя і старыя. Раскажыце тым, хто не так даўно ўпершыню ўзяў часопіс у рукі, як ён нарадзіўся.**

— У 30-я гады тэарэтыкі ад сацрэалізму тэарэтызавалі на поўным сур'ёзе: смяяцца ў эпоху дыктатуры пралетарыяту, узрастання класавай барацьбы, індустрыялізацыі і калектывізацыі шкодна. Але ўжо ў 40-я, калі было не надта да тэорый і ўсімі сродкамі трэба было біцца з фашысцкай навалай, успомнілі пра такую магутную зброю, як смех.

У пачатку ліпеня 1941 года выйшаў першы выпуск сатырычнага плаката «Раздавим фашистскую гадину!». З гэтага агітплаката, поспех якога пераўзышоў усе спадзяванні, і пачалася радаслоўная «Вожыка». У сорак пятым часопіс атрымаў сваё цяперашняе імя і пасяліўся ў Мінску. На чале яго тады працаваў такі прызнаны майстар смеху, як Кандрат Крапіва. Зрэшты, часопісу заўсёды шанцавала на супрацоўнікаў — амаль усе вядомыя беларускія літаратурныя імёны так ці інакш з ім звязаны.

**— Апошнім часам «Вожыка» ў кіёсках днём з агнём не знойдзеш. Гэта ўсплёск вашай папулярнасці ці нешта іншае?**

— Хутчэй за ўсё нешта іншае. Справа ў тым, што шмат гадоў сувязісты нас упрошвалі: стрымлівайце падпіску, давайце больш у розніцу. Маўляў, гэта практыка развітых краін. Мы так і рабілі, часопіс ішоў добра. І вось у лютым розніцу «разанулі» на 60 тысяч экземпляраў. Хто гэта зрабіў? Канцоў не знойдзеш. Выдавецтва ківае на «Саюздрук», «Саюздрук» — на Дзяржплан, Дзяржплан — на выдавецтва і «Саюздрук». Словам, зачараванае бюракратычнае кола. Нікому вожыкаўскі смех не па нутру. Для некага высокарэнтабельны беларускамоўны «Вожык» — што тая костка ў горле.

**— Дзе ж выйсце? Што б Вы параілі чытачам?**

— Лепш за ўсё аформіць падпіску. Дарэчы, мы не плануем рэзкага павышэння цаны. У будучым годзе па падпісцы «Вожык» будзе таннейшы, чым у розніцы.

**— Рыхтуючы юбілейны нумар, Вы яшчэ раз прагледзелі былыя выпускі, вызначылі для сябе тэндэнцыю развіцця «Вожыка». Прадкажыце, якім будзе часопіс яшчэ праз 50 гадоў.**

— Цяжка сказаць... Відавочна адно: людзі стаміліся ад сур'ёзных спрэчак і высвятлення адносін ледзь не з дапамогай кулакоў. Ім проста хочацца шчыра над усім пасмяяцца. А смех — гэта найбольш яскравы паказчык духоўнага здароўя чалавека, нацыі. Дык будзьма смяяцца, каб не ўдзічыць, не зманкурцець!

**Размову вяла**
**Ірына ДЗЯРГАЧ.**

---

# День Союза

### РОССИЯ СПАСЕТСЯ ОТ ИНФЛЯЦИИ!

Как сообщил руководитель группы экспертов Председателя Верховного Совета РСФСР Игорь Нит, в российских правительственных кругах идет проработка мероприятий, которые позволили бы защитить приватизационные чеки России от общего инфляционного процесса в стране. Механизм защиты найдет отражение в готовящемся проекте закона РСФСР о приватизационных чеках.

### ВДОЛЬ ГРАНИЦЫ ЗА 85 РУБЛЕЙ

37-летний житель Ленинграда Владимир Булычев решил совершить путешествие вдоль государственной границы СССР в одиночку и на велосипеде. Выехав в начале октября прошлого года из города на Неве, он преодолел уже 18,5 тысячи километров и в конце июня нынешнего года добрался до Анадыря. А свое путешествие он рассчитывает завершить в 1992 году, сообщает «Сибинформ».

В дорогу путешественник взял с собой лишь 85 рублей, которых, по его мнению, должно хватить на телефонные переговоры, газеты и спички.

### З. БЖЕЗИНСКИЙ О БУДУЩЕМ ЕВРОПЫ

Выступая на международной конференции в Таллинне, известный американский политический деятель З. Бжезинский сделал прогноз на 1992—1995 годы. По его мнению, в этот период произойдет более широкая интеграция европейских государств на конфедеративной основе. Несколько позднее в эту конфедерацию войдут страны бывшего «социалистического лагеря», наиболее подготовленные к этому, — Чехословакия, Польша и Венгрия. Возможно, когда-то будут ассоциированы в новую Европу и нынешние республики Прибалтики.

### ...«УДАРЯЮТСЯ» В КОММЕРЦИЮ

Казна эстонской компартии пустеет на глазах. Особенно возросли финансовые трудности после раскола компартии на независимую и на платформе КПСС.

Но не везде коммунисты в непривычных для себя условиях «опустили руки». Первым показал пример морской РК КП Эстонии: не имея средств на содержание 4-этажного здания, он предложил часть его площади внаем общественной организации «Интеград», таможне...

Кроме того, райком основал малое предприятие «Когитя» по обучению специалистов иностранным языкам.

### САХАЛИН — КОНКУРЕНТ ГАВАЙЯМ!

Пятьсот туристов ежедневно будет встречать «остров-рыба», в случае если будет принят проект создания на Сахалине туристско-транспортной корпорации, предложенный доктором Язди из американской Атланты. Для практической реализации этого проекта доктор Язди организовал компанию «Юнайтед персонс инкорпорейшн».

Корпорация берется построить гостиницы, кемпинги, дороги и аэропорты.

Авторы проекта убеждены, что уникальная природа Сахалина заинтересует многих любителей путешествий.

### ПОЧЕМ МУСОР ИЗ ИТАЛИИ!

После протеста ряда экологических организаций сессия Волжского городского Совета (Волгоградская обл.) отложила слушание вопроса о строительстве мусоросжигательного завода на окраине города.

Предприятие по переработке отходов стоимостью 600—650 миллионов долларов итальянская фирма «Темпо Эджидио и К°» предлагает построить бесплатно. Но в порядке компенсации ставит условие завозить для уничтожения до 5 миллионов тонн нетоксичных и нерадиоактивных отходов из Италии.

Именно последнее обстоятельство и вызвало негативную реакцию «зеленых».

### ВПЕРВЫЕ!

Впервые полотна южноафриканских мастеров живописи выставлены на обозрение советской публики в рамках проходящей здесь выставки Интер-арт'91.

Организатор выставки известная германская фирма «Глахе интернационал КГ» совместно с советской стороной представила в Москве работы мастеров из двух десятков стран, однако произведения художников из ЮАР вызывают у посетителей особый интерес.

### МОЛДОВА ЗАЩИЩАЕТСЯ ОТ БЕЗРАБОТИЦЫ

Около 10 процентов трудоспособного населения Молдовы в той или иной степени испытывает трудности с устройством на работу. В ближайшее время безработными окажутся еще 40 тысяч рабочих более ста предприятий, находящихся на грани банкротства. Об этом сообщил директор Республиканского департамента занятости Петру Постеукэ. Для решения проблем безработицы в рамках республиканского социального фонда создается фонд содействия занятости. Его гарантами станут практически все предприятия и учреждения республики независимо от форм собственности.

